# СЯРЖУК СОКАЛАЎ-ВОЮШ

РАНІЦА РЭСПУБЛІКІ

П'еса, у якой бяруць удзел:

1. МАЛЕНЬКІ.
2. МАЁР.
3. ЯНА.
4. КОПІЯ.
5. ЁГ.
6. БРОНЕТРАНСПАРЦЁР.
7. ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ.

Сцэна нагадвае бронетранспарцёр з сярэдзіны ў натуральную велічыню. Павелічальнае шкло перад сцэнай надае яму гігантыцкія памеры і да таго ж паказвае ўсё дагары нагамі. Зараз на сцэне пяць гадзін, пяцьдзесят дзевяць хвілін паводле маскоўскага часу. Ціха, але рэчы прадчуваюць раніцу і ня сьпяць. Нарэшце, немаведама адкуль прысутны ў бронетранспарцёры гадзіньнік-ходзікі з гірамі-шышкамі пачынае шыпець і біць голасам маскоўскіх курантаў. Голас за сцэнай паведамляе час, гучаць гімны СССР і БССР і на хвіліну ўсё змаўкае. Праз хвіліну за сцэнай чуюцца крокі вялікай колькасьці вайскоўцаў пад час урачыстага маршу і на сцэну маршавым крокам выходзіць чалавек у форме маёра невядомай арміі. За сьпіной у яго гітара. Ён спыняецца пасярод сцэны. У гэты самы час крэсла кіроўцы бронетранспарцёра паварочваецца на 180° і зь яго ўстае незвычайна вялікі, а на самой справе Маленькі чалавек. Усе, акрамя яго, ходзяць вайсковым крокам.

МАЛЕНЬКІ. Маёр, я віншую вас з раніцай рэспублікі!

МАЁР. Рады старацца!

МАЛЕНЬКІ. Ну, гэта вы як заўжды.

МАЁР. Такая служба.

МАЛЕНЬКІ. Брава, маёр, брава. Ужо колькі дзесяткаў год чую ад вас гэта: такая служба; і кожны раз вы вымаўляеце гэта па-новаму... Вы што -- яцьвяг?

МАЁР. Крывіч.

МАЛЕНЬКІ. Я так і думаў. Дазвольце ваш браўнінг.

МАЁР. Ха-ха-ха. Клянуся продкамі -- гэта цудоўны жарт.

МАЛЕНЬКІ. Перастаньце сьмяяцца. Зараз сюды прыйдзе Яна.

МАЁР. Так хутка?

МАЛЕНЬКІ. Ваша іронія тут недарэчы. (Пераходзіць на шэпт.) Вы прынесьлі?

МАЁР (таксама шэптам). А вы сумняваліся?
МАЛЕНЬКІ. Давайце.
МАЁР. Толькі ня тут.
МАЛЕНЬКІ. Ну, як хочаце... Я вас ведаю... Гэта усё адно лухта. Нам такое ня трэба... У нас такога тоны... Тысяча тонау... Мільёны...
МАЁР (вынімае з-за пазухі скрутак паперы). Наце!
МАЛЕНЬКІ (бярэ скрутак, нават ня глянуушы на яго). Я ж казау: лухта.

Чуваць крокі вайскоуцау і зьяуляецца Яна.

ЯНА. Я чытала. Добра.
МАЛЕНЬКІ. Давайце сядзем. (Сядае у крэсла кіроуцы.) Кожны павінен ведаць сваё мейца.
ЯНА. Гэта ужо ня сьмешна.
МАЛЕНЬКІ. Маёр, скажыце жарт!
МАЁР. А можна вечарам?

Маленькі сьмяецца.

ЯНА. Ну у вас і гумар... Між іншым, у кнігарню па маёй замове кніжку прывезлі... Пра камп'ютэры.

Маленькі і Маёр сьмяюцца.

МАЛЕНЬКІ. Адзін -- нуль.
МАЁР. Пайшлі забярэм.
МАЛЕНЬКІ. Лухта. Лепш па кубачку кавы.
ЯНА. Добра.

Чуваць крокі і на сцэне зьяуляецца Копія Маленькага у апратцы Маёра. Копія размауляе Ейным голасам.

МАЛЕНЬКІ. Ты хто?
КОПІЯ. Муза.

Маёр моучкі падае ёй гітару.

КОПІЯ (сьпявае). Голас нашых трактароу,
Як песьні салауя.
МАЁР (размахваючы бел-чырвона-белым сьцягам).
Над маім лунае лёсам
Беларусь мая.

Муза працягвае напяваць мелодыю, перабіраючы струны. Маёр стамлёна падае у крэсла на калені да Яе.

МАЛЕНЬКІ. Маёр, напішыце п'есу абсурду, а то пішаце чорт ведае што і наш часопіс не чытаеце.
ЯНА. Мне цяжка вас трымаць.

Маёр ад нечаканасьці голасу над вухам ускоквае і крычыць голасам Маленькага.

МАЁР. А-а-а-а-а-а-!
МАЛЕНЬКІ. Я так і думаў, што слабо.
ЯНА. А я б выпіла кавы.
МАЛЕНЬКІ. Дэфіцыт.
КОПІЯ. Хто крычаў?! Дазвольце я вынесу вашу сьметніцу.
МАЛЕНЬКІ. Вынось.

Копія выносіць сьметніцу.

МАЛЕНЬКІ. Дык што п'еса?
МАЁР. Абсурд не люблю, але дзеля вас зьляпаю.
ЯНА. А што друкуе ваш часопіс?
МАЛЕНЬКІ. Доўнар-Запольскага.
МАЁР. Ну,ну.
МАЛЕНЬКІ. А вы не чытаеце, дык маўчыце. (Да Яе.) Разумееце, нашая літаратура -- гэта сьмех. Як толькі ў дэтэктыве зьяўляецца палкоўнік Пеця, так гэта ўжо не дэтэктыў. (Крычыць.) Я патрабую эўрапэйскага ўзроўню!

Уваходзіць Копія.

КОПІЯ. Ваша сьметніца прапала. Я пастаўлю горшую. Гэта нічога?
МАЛЕНЬКІ. Нічога.
МАЁР. Я ж сказаў: напішу вам п'есу.
ЯНА. Ён напіша.
МАЛЕНЬКІ. І пакіньце, калі ласка, эпічныя формы. Вы ў іх сьпісаліся. Пішыце вершы.
ЯНА. Лірыку.
МАЁР. Мяне ад лірыкі на сон цягне, а ўчора ванітавала.
КОПІЯ. Пашлякі.
МАЛЕНЬКІ. Ты яшчэ тут?
КОПІЯ. Я ваша муза.
МАЁР. Ідзі ты...
КОПІЯ. Дык я пайшла?
МАЛЕНЬКІ. Ну табе ж сказалі.
КОПІЯ. Гуд бай! (Выходзіць.)
ЯНА. Дык што кава?
МАЁР. Кубак паб'еш.
МАЛЕНЬКІ. У добрай літаратуры ўся сіла. Няма ў нас свайго Кафка і Лукаса Карнаха Старэйшага няма. Вось дзе сабака закапаны.
ЯНА. Клас.
МАЁР. Ды напішу я вам п'есу.
МАЛЕНЬКІ. Вазьміце напрыклад Йонеску... Ды вы не чыталі.
МАЁР і ЯНА (у адзін голас). Чыталі.
МАЛЕНЬКІ. Гэта ж, халера, узровень. Ці мы вунь... Доўнар-Запольскага... Пра гэта я ўжо здаецца казаў...

Чуваць вайсковыя крокі. Зьяўляецца Ёг.

ЁГ. Добры дзень у рэспубліцы. Зайшоў проста так, па справе. А вы Доўнар-Запольскага друкуеце па-расейску?
МАЛЕНЬКІ. Ды як вы можаце! Я ў слове Нёман кропачкі над "ё" паставіў... Вядома, па-расейску.

МАЁР (бярэ ў рукі гітару). Горача ў нас у рэспубліцы.
МАЛЕНЬКІ. Вы вазьміце хаця б прыбалтаў.

Ёг вынімае дошку зь цьвікамі і сядае на яе, моўчкі пазіраючы, але ня гледзячы на размоўцаў.

ЯНА. Камп'ютэрызацыя -- гэта рэч.
МАЛЕНЬКІ. Прыбалты вунь куды сіганулі ў літаратуры. Нам хаця б іх дагнаць. Бось мы і друкуем Доўнар-Запольскага... Падставовыя рэчы. Бязь іх -- нікуды. А прадмову напісаць няма каму. Сеў ды напісаў сам. Вось табе і культура.
МАЁР. Няўжо вы ня чуеце як тут горача?

Ёг здымае шапку-аблавуху і апранае чалму.

ЯНА. Цікава, як працуе сёньня кнігарня? Пайшлі глянем.
МАЁР. Спачатку папі кавы і выпадкова разьбі кубачак, тады сходзім.
МАЛЕНЬКІ. А я пра цябе артыкул напісаў.
МАЁР. Ды напішу я вам п'есу... Горача.
ЯНА. Чалавек вунь на цьвіках сядзіць, за Радзіму пакутуе,а ты -- п'есу.
МАЛЕНЬКІ. Мы ўсе на цьвіках сядзім. А вось прыбалты...
МАЁР. Ды напішу я вам п'есу.., Горача.
ЯНА. Без камп'ютэраў мы прапалі. Без камп'ютэраў мы -- нішто.
МАЁР. Ды напішу я вам п'есу... Горача.
МАЛЕНЬКІ. Як хутка мінула раніца. Гэта не эўрапэйскі ўзровень.
ЯНА. Раніцай усе камп'ютэры...
МАЁР. Ды напішу я вам п'есу... Горача.
ЁГ. Давайце стрэлім з нашага бронетранспарцёра.
МАЛЕНЬКІ. Ня трэба. Многія з раніцы яшчэ сьпяць. Гэта не эўрапэйскі ўзровень.
ЯНА. А вось камп'ютэры, гэта -- узровень.
МАЁР. Ды напішу я вам п'есу... Горача.
МАЛЕНЬКІ. Што ж ты адразу не згаджаўся напісаць?
МАЁР. Думаў: пустое. Навошта нам раніцай такая п'еса... Але, калі камп'ютэр і эўрапэйскі ўзровень, ці хаця б як у прыбалтаў, то чаго б не напісаць? Чалавек вунь на цьвіках за Радзіму пакутуе... Ды напішу я вам горача!.. П'есу...
МАЛЕНЬКІ. Ну вось і цудоўна. Тады і пагаворым. Грай, маёр.
МАЁР (да Ёга). Дай пасядзець.
ЁГ. На. (Маёр сядае на цьвікі.) Хто яшчэ не сядзеў за Радзіму?
ЯНА. Доўнар-Запольскі.
МАЛЕНЬКІ. Пайшлі на каву.

Усе, акрамя Маёра, выходзяць шыхтом.

МАЁР. Вось дачакаюся курантаў і бабахну з гарматы. Абы калібр снарадаў падыйшоў. Я ў гэтым разумею. У мяне бацька артылерыстам быў. Так што: добрай вам наступнай раніцы.

I.

Гармата страляе сама. Дым засцілае усё навокал, а калі рассейваецца — на сцэне нікога няма. Чуваць голас дыктара радыё.

ДЫКТАР. Перадаём навіны. Сёньня раніцай на Беларусі адбыўся гарматны стрэл. Ахвяраў і разбурэньняў няма.

Рэклама. Пабітыя кубачкі ад кавы хутка і надзейна склеіць для вас кааператыў БФ-6. Ён жа можа устанавіць вам новыя персанальныя камп'ютэры. Адмысловыя дошкі для ёгаў выпускае менскі трактарны завод. П'есы абсурду на эўрапэйскім, ці хаця б на прыбалтыйскім узроўні ня піша ніхто. Сачыце за нашай рэкламай.

Надвор'е. У рэспубліцы раніцай — горача.

А зараз пад рубрыкай "Раніца рэспублікі" мы прапануем вам перадачу "Дзень за днём". Ля мікрафону дыктар рэспубліканскага радыё Доўнар-Запольскі.

К а н е ц.

# ВАЛЯНЬЦІНА АКСАК

## ВЫБАР

І храм Узьвіжаньня, й Праабражэньня Спаса
Маленькая, як лялечка, царква --
Сумоўнасьцю душы і дум прыкрасай,
Калі пад сэрца ссыпана жарства.

І ўжо нідзе на сьвеце не знайду я
Ратунку ад прыдуманых багоў,
Бо нават Праўялебную сьвятую
Ты быў забыць з чужынкаю гатоў.

Ня Полацкай, а Кіеўскай Сафіі
Пачуў званоў прынаднае біцьцё...
Я -- у нябыт ці ў вечнасьць -- да стыхіі
Спакусаў боскіх праведнай Марыі,
Ты -- у сягоньня страстнае быцьцё.

1989

## ВЕРБНІЦА Ў ВАСІЛЕЎЦАХ*

Ужо засьвяціліся кветкі падбелу
на кволай траве у забытым кар'еры,
і ў гэтым нязвыклым яшчэ інтэр'еры,
у дыме бяроз, цераз ноч загусьцелым,
зяленіва ўе над гняздоўем збуцьвелым
свой німб веснавы.

А горад ашчэрвае пашчу ўсё шырай,
і кружыцца доўга знячэўлены вырай
над месцам, якое ўжо назвы ня мае, --
нашчадак паганскія косткі шпурляе
на вагі, дзе служаць адзінаю гірай
унукі яго.

Падмурак ня кроплены сьветлай вадою,
і новы кар'ер заплывае травою,
і кветкі падбелу, як вогнікі продкаў
успыхнуць якраз нашай сьмерці на ўгодкі
пад домам чужым.

1989

-----------------

* Вёска, якую нядаўна праглынуў Наваполацак.

* * *

Чырвоны ходнік пасярод сьвятлынь-пакою
Расьцяў яго раўнюсенька на часьці.
Адкуты мосенж на мае запясьці,
А на яе -- Хрыстовае прычасьце.

Чырвоны ходнік пасярод сьвятлынь-пакою,
Хадзіць па ім дазволена абраным.
Атрута змовы на маім каханьні,
А на яе -- Хрыстовае прызваньне.

Чырвоны ходнік пасярод сьвятлынь-пакою
Лёг ад мяне і да яе памкнуўся.
Ад мае помсты болей не ратуйся,
Бо ад яе даўно ўжо Бог зьлякнуўся.

1989

* * *

Паўз магілкі мая дарога.
Штодня -- заходам і сьвітаньнем
Твой крыж вітаю адвітальна.
Даруй-даруй! Усё -- ад Бога.

Рука ў жагнаньні стыне строга
Над мейсцам нашага расстаньня.
А наўздагон -- твае маўчаньне.
Не наракай! Усё -- ад Бога.

Самотных дзён у нас нямнога.
Ужо ўзыходзіць знак астральны
Над мейсцам нашага спатканьня.
Прымі-прымі! Мяне -- ад Бога.

1988

## ПЕРАД ВЯЛІКАДНЕМ

Панядзелак радзіўся на зломе
Нескаромнага шчырага тыдня.
У Табой ашчасьліўленым доме
Пост вялікі хрысьціўся ў Вялікдзень.

Белым воблачкам раніца зьзяла
У расчэсаных кудзерках жарых,
І аўторак сабой падганяла,
Сераду вызваляла з цяжару.

І чацвер абмываўся блакітам
У купелі вачэй маіх поўных.
Ды вось пятніца нешта панікла,
Не сьпяшала выходзіць за поўняй.

Ля чаканай чырвонай суботы
Яна чорнаю быць не хацела.
Крутануў ты сваім калаўротам --
На нядзелю аж пырскі ляцелі.

I сьцякалі, як сьлёзы з расьпяцьця,
Усёй нядзелі забрудзіўшы твар...
Не пашыла я белае плацьце,
I ўжо ў чорным іду на цьвінтар.

1987

ж ж ж

"... И не проси у Бога ничего".
А.Ахматава

Такая ноч -- чаканай госьцяй,
I ўсцешна мне прымаць яе.
Ні ты, ні я, ні трэці хтосьці
Яе прыход не пераймe.

Мой цень услед за мной ня ходзіць,
Душу ўжо носіць, нейкі птах,
А цела просіць, даўна просіць
Спачыць пад ладанавы пах.

РАЗЬВІТАНЬНЕ З РАДЗІМАЙ

(На матыў аднайменнага паланэза М.Агінскага)

Водсьвет лагодных промняў згас.
Цямрэча зьвіла сіло.
Павевы ветру ў ім зьвінелі ўраз.
Туман рачны --
Прывід начны
На паплавох
Тугім сукном
Над копамі напнуўся.

Зоры трымценьнем срэбных вей
Цямрэчы сіло зьнялі.
Мільёны сьцежак нам Сусьвет ілье.
Ад зьнічак тых
Да коп сівых
Збавеньня сьцяг --
Эфірны шлях
Над намі нахіліўся.

Там, дзе апошні промень згас, --
Нябачных музыкаў хор
З далёкай далі кліча ў высі нас

Паплыць туды,
Дзе цень зямны
З нябесных гор
У вечны сьвет,
Як херувім, памкнуўся.

1989

# АЛЕСЬ АРКУШ

## ЯГО СУСЬВЕТ

Яго сусьвет нагадваў лёхі,
Дзе ў два бакі шугаў скразьняк,
Дзе выпраменьваў да зьнямогі
Сьляпую чырвань нашчы гляк.

Жарынка кволая трымцела
У гляку -- бытта ў каміне,
І ў лёхах, як дзяньніца, сьпела
Гадзіна, што нябыт скране.

У гляку скразьнякі сьвісталі
І спорна чырвань раздзьмухалі.

## АПОШНІ ШЛЯХ

І звер, і птушка ведаюць
свае апошнія шляхі.

Крочыць дзядуля сівы і нямоглы
Шляхам апошнім, шляхам надзеі.
Шлях ад адзінай сьлязіначкі вогкі,
Шлях -- што калісьці зьвялі ліхадзеі.

Сонца і месяц стаяць над крыжамі.
Сум і спагада на зорнай арбіце.
Вось ён, сабор, закіданы глыжамі...
Хоць перад сьмерцю... перакрысьціце.

## ВЕТАХ

Зноўку нашыя спадзяваньні,
Як жарынкі, што рушылі ў космас.
Ветах будзе трымацца да раньня,
Распаўсюдзіць таемныя позвы.

Вершалінамі дрэвы ня з намі,
Вершаліны -- паверх таямніц.
Адлятае лістота клінамі
Без гайворанаў і сініц.

Сочыць рухі бяскрылыя ветах,
Распачатыя ўверх кагадзе.
На дагледжаны зорны палетак,
Як насеньне, лістота ўпадзе.

З нізкі вершаў
"Гарадскія варыяцыі"

## ЗМРОК

Пах стамлёнага металу,
Шэры воблак, белы дым --
Да бясконцасьці ўздым.

Працы пляміны-лякалы,
За чыгункай горад сьпіць,
Да дзяньніцы -- не будзіць.

Гурт рахманых пацукоў
Скачыць мякка -- без падкоў.
Пах стамлёнага металу --
На крыжах няма цьвікоў.

Сторублёвая купюра
Менш таемная за паца.
Людзі сьпяць -- ім сьніцца праца,
Ды скарыначка на тацы --
Не да "сюра".

Шэры воблак, белы дым:
Я ня буду маладым.
Горад ведае, што кажа,
Бо працўнік сабатажу --
Сьцяг "недремлющий" над ім.

Ўсе газэты нахлусілі,
А чыгункі разнасілі,
Што Радзіму не любіць...
Проста... проста горад сьпіць.

Я ня ведаю у твар
Пацука майго ўтрыманьня --
Нечым бавіцца да раньня,
Недзе гадзіць тратуар.

За мой кошт жыве зладзюга,
Як за добрай, цёплай цёткай.
У маім двары калюга --
Я хаваю ў ёй улёткі.

Пах стамлёнага металу --
Гарадскога поту пах.
Зноўку стомленую Алу
Пачаплялі па слупах.

Ліхтароў сьляпые вочы,
Шэры воблак, белы дым:
Я ня буду маладым.
Чулі, браце, -- не прароча.

Толькі ветах, толькі ветах,
Пазнаю яго па твары,
Ходзіць над усім у кедах
І склікае да пажару.

Ды яго ніхто не чуе --
За чыгункай горад сьпіць,
Да дзяньніцы -- не будзіць.

Мякка скачуць пацукі --
Шум рабіць ім не з рукі.
Маюць блазненскую рацыю:
Ўсе з падковамі -- на працу.

А на дне маёй калюгі
Ціха, брудна ды ня тленна:
Першы промень ад пажару
Ей памножыцца імгненна.

Ну а сёньня -- ноч і горад,
Пацы мякка, мякка скачуць.
Пад падушкай -- кволы сорам,
На падушцы -- жах, няйначай.

Паспрабуй ад ложка збочыць!
Людзі дрыхнуць без аддышкі,
Іх заплюшчаныя вочы --
Пройгрышы ігры на лыжках.

За чыгункай горад сьпіць,
Да дзяньніцы -- не будзіць.

Завітаюць раптам госьці:
Не чуваць палёнай поўсьці.

# •МЯСЦОВЫ ЧАС•

ПЕСЬНІ

## НАШ ШЛЯХ

Мы робім наш рок --
Моўны, музычны электрашок.
Наш беларускі рух
Нясе адраджэнцкі дух.

Ды не згасьне ў нас сьвятая злосьць,
Покуль мы на гэтым сьвеце ёсьць.
Будзе трэба -- згінем на крыжы,
Толькі б веры зьніч быў здольны жыць.

Мы, усе як адзін,
Адмовілі страх, журбу і спачын,
І гэта наш лёс.
Поруч гайда, хто ідзе ў поўны рост.

## ПАПЕРА -- ВАШ СЬЦЯГ

Вы -- пятля на шые, стрэмка ў сэрцах,
Вы нашы мэты ператвараеце у прах,
Вы вельмі нахабныя, вы нам не ў кайф --
Нам надакучыла хадзіць у хамутах.

Вы -- як ланцуг на нашых руках,
Вы -- гаспадар у нашых дамах,
Вы пакідаеце ў дурнях нас,
Вам добра сядзець на вашых мейсцах.

Я не магу абяцаць вам спакой,
Чуеце шум -- гэта прыбой,
Чуеце музыку -- гэта мы,
Хавайцеся па норах, сьмярдзючыя псы.

## ГЭЙ! ХТО ДУМАЕ!

Гэй, хто думае так, як і мы,
Чыя словы прабуджаюць вумы,
Хто жадае гэткай гульні:
Гэй! Падыхоць ды глядзі.

Вас бянтэжыць мой яркі выгляд?
Я, прызнацца, гэтаму рад.

Колькі шэрасьці вакол мяне!
Шэры колер засьціць вочы, як сьмерць.

Гэй, хто думае так, як і мы,
Хто ня любіць хмурыя дні,
Старых песень і вузкіх вакон,
Не баіцца стаяць пад дажджом,

Хто жадае нешта сказаць,
Хто ня хоча сем разоў адмяраць,
Хто ня можа болей чакаць --
Прасынайся, хопіць спаць!

## І С У С

Расьпяты Ісус на крыжы --
Насіцель сьветлых ідэй,
Як сымбаль вечнай любові
Ён так сьвята верыў у людзей.

Як чорным па белай сьцяне --
Па чыстай ягонай душы
Крывёй расьпісаліся тыя,
Хто страціў свае карані.

Колькі год прайшло з той пары,
А дагэтуль легенда жыва,
А іуды рыхтуюць крыжы
На выпадак з'явы Хрыста.

Хай зьнічы запалюць агні,
Дараваныя нам кабы жыць,
Адраджэньнем сапраўднай любові
Стала музыка вырваных мышц.

## СЛОТА

На вуліцы слота, прамоклыя ногі,
Мы раніцай выйшлі з нашай бярлогі,
На вуліцы холад, усе маруць вясною,
А сонца засталася зноў за гарою.

На вуліцы твары панурых людзей --
Начальнік ня будзе карміць іх дзяцей.
На вуліцы гразь, а ў вятрынах туга,
І ходзіць падлеткаў падпіты кагал.

На вуліцы цьвіль малін і прытонаў,
Уласнікі хатніх вінных заводаў.
На вуліцы вочы выдатніц студэнтак --
Замест адзнак бяруць грошы з кліентаў.

На вуліцы сотні рэкламных агней
Гарацъ дзеля простых савецкіх людзей.
Паверце, сябры, нам у гэты раз --
НАВОГУЛ усе вуліцы толькі для вас!

## КРУТАЯ РАЗМОВА АБО ЗАБАРОНЕНЫ МІТЫНГ

Вітаньне прыгонныя усходніх начэй,
Шаноўнае мяса трох рэвалюцый,
Праз вастрыё нацыянальных нажэй
Шукаеце праўду ў радках рэзалюцый.

Адзінае братэрства прагніла наскрозь.
На нашых сьцягах плямы чорнай ня зьвесьці.
А у кожнай кватэры грызуць сваю косць --
Галодным народам пакуль не да песень.

Мы блізкімі сталі -- каго ні крані --
У чэргах таўкліся за правам на сьмеласьць,
Нам цемры хапала -- тушылі агні.
Навошта усё: хопіць! мы досыць наеліся!

# ВІНЦЭСЬ МУДРОЎ

ЧАС КАМАРА

-- Напішы ж, як ты там, на тым моры, -- настаўляў дзед Базыль свайго ўнука, трыццаціздвухгадовага нежанатага маладзёна.

Унук баднуў галавой, паабяцаўшы гэткім чынам напісаць, і падняў з зямлі напакаваную валізу.

-- Ты гэта вось што... -- старэчыя пальцы ўхапіліся за рукаў, прабеглі па штрыфелях пінжака і, не надумаўшы нічога лепшага, піхнулі за пазуху ўнуку пачак крамнай махоркі.

-- Ды што ты, дзеду... у мяне ж цыгарэты.

-- Бяры, бяры. Закурыш мо калі, мяне, старога, успомніш, -- дзед Базыль закашляўся, таропка змахнуў растайную сьлязіну.

-- Ну, дзеду... Ну што ты... Хутка зноў прыеду, -- унук вінавата азірнуўся на перапоўнены "пазік", ляпнуў дзеда па плячы, маўляў, мацуйся, стары, і подбегам рушыў да аўтобуса.

-- Вось як, без маткі, без бацькі, а вырас... Інстытут скончыў... хату дзеду перакрыў, -- скрозь сьлёзы прамовіў стары і вясковыя жанкі, што стаялі на супынку, спачувальна кіўнулі галовамі.

Чэрвеньская ноч дыхнула водарам бэзу і саладжавым пахам нагрэтага асфальту. Расчыніўшы акно, Янка сеў на падваконьне і з нейкім дзіўным зачараваньнем зірнуў на барвовую, пакрэсьленую асьверамі кранаў, палоску. Там, у самым прадоньні згусьлай барвовасьці плыла, мільгаючы белым сьвятлом, жарынка далёкага самалёта. Хлопец праводзіў яе позіркам і з ціхай радасьцю падумаў, што да водпуску засталося дванаццаць дзён. Мінуць два тыдні, і ён, пераўтварыўшыся ў гэткую ж міргатлівую зорку, паляціць у начным бязмежжы насустрач цёпламу мору. Узрушаны такім пераўтварэньнем, ён правёў даланёй па сьцягну -- ці не знойдзецца дзе цыгарэта і ў тую ж хвіліну згадаў пра дзедаву махорку.

Пяршывы махорачны дым заказытаў у горле. Янка выгаліў вочы, астматычна-доўга кашляў і, кінуўшы недакурак у разнасьцежанае акно, паваліўся на ложак. Колькі часу ён ляжаў незварушна, слухаў начную цішу і шчымлівыя, па-дзіцячы сьветлыя думкі, поўнілі ягоную галаву.

"Усё ж такі паважае мяне Пятровіч , -- кранула Януковыя вусны лагодная ўсьмешка, -- вунь і шыферу дапамог дастаць, і пуцёўку ў прафкоме выбіў. А на пуцёўку тую сама Фановіч мерылася".

Бліснуўшы вачыма, начны летуценьнік закінуў за голаў спрацаваныя рукі (за выхадныя ён перакрыў дзедаву хату шыферам)і неўзабаве пачуў ля вуха дакучлівае камарынае зумканьне. Хлопец ляпнуў сябе поўху, у вухе зазьвінела яшчэ натужлівей,

а камар тым часам заказытаў ля скроні.
Праз паўгадзіны летуценьнік вылез з-пад коўдры, запаліў у пакоі сьвятло і, схапіўшы са стала бібліятэчнага Друона, пачаў шалёна лупіць ім па сьценах, пазначаючы жоўтыя інтэрнацкія шпалеры брудна-чырвонымі плямамі расьціснутых камароў.
На сьвітаньні ён забыўся трывожным кашмарным сном.
Майстар цэху алюмініевага ліцьця Іван Вікенцьевіч Пузік быў таго ранку не ў гуморы. Махнуўшы рукою кранаўшчыцы Зіне, якая па старой звычцы вітала яго званком з верхатуры, майстар спыніўся ля печы Станіслава Бабронка. Сам Бабронак, васемнаццацігадовы абібок з цяжкім лёсам, якога прыслалі ў цэх на перавыхаваньне, ляжаў на скрыне з чэхаславацкай аўтаматыкай і пускаў кольцы тытунёвага дыму.
-- Бабронак, што гэта такое? -- майстар кіўнуў на абліую застылым металам печ.
-- З начной пакінуў, -- падаў голас выхаванец калоніі і падняўся на ногі.
Майстар Пузік зазірнуў у ваграку: печ дыхала пякельнай гарачынёй, а растоплены алюміній пакрываўся ўжо шараю плеўкай.
-- Чаму зьліткі не кідаеш, метал стыне?!
Бабронак узяў у рукі манціроўку, тыцнуў ёю ў паветра, паказваючы некуды ў канец цэха, і з неахвотай пачаў аббіваць застылыя рагі.
Майстар прымружыў вочы: адзіны цэхавы электракар стаяў упоперак праезда, а ля яго, бліскаючы ў неонавым сьвятле вялізным плехам, шчыраваў кіроўца Струк.
-- Што, лысая галава, зноў паламаўся? -- яшчэ здаля крыкнуў Пузік.
-- Зноў, каб яго, -- Струк падняў свой вінавата-замурзаны твар і, азірнуўшыся, сьцішана дадаў: -- Вас тут Фановіч шукала.
Словы тыя гарачай іголкай увайшлі ў сэрца.

Начальнік аддзела навуковай арганізацыі працы сядзела ў Януковым "кабінеце" -- адгароджаным фанерай катуху і, чухаючы за вухам вязальным прутком, гартала зьменны журнал. Муза Андрэеўна Фановіч, жанчына магутнага целаскладу і волатаўскага здароўя, была жывым увасабленьнем грамадзянскай сьмеласьці і прынцыповасьці. Прынамсі, так яе характарызавалі на заводскіх прафсаюзных сходах. Праўда, пры гэтым многія ў душы пасьмейваліся з Музы Андрэеўны, з яе, як казалі, "дэмагагічнага імпэту", але тым, хто ставаў на яе шляху, было потым не да сьмеху. Насупраць Музы Андрэўны, заслаўшы газэцінай закураны ўслон, сядзела кволая дзяўчына, якую Янка бачыў упершыню і якая з невядомай прычыны трымала ў руцэ секундамер.
Не адказаўшы на дабрыдзень, Муза Андрэеўна працяглую хвіліну вывучала пакусаны твар Івана Вікенцьевіча.
-- Вы што, таварыш Пузік, заўсёды спазьняецеся...
-- На чатыры хвіліны, -- цёхнула тым разам дзяўчына і гучна пстрыкнула секундамерам.
Янка прыклаў руку да сэрца...
-- Свае тлумачэньні дадзіце ў пісьмовым выглядзе, а зараз адкажыце, чаму вас зноў не было на семінары эканамічнай

адукацыі? -- Фановіч ускочыла з лавы, абыйшла стол і, дыхнуўшы пахам часныку і парфумы, усутыч падыйшла да майстра.

- Замест таго,каб быць прыкладам у дысцыпліне, вы, таварыш Пузік, яе сьвядома руйнуеце. Гледзячы на вас, кінулі наведваць семінар і маладыя сьпецыялісты. Такім чынам, гэта з вашай, -- Фановіч узрушана патрэсла вязальным прутком, -- з вашай, таварыш Пузік, ініцыятывы, у пятніцу былі сарваныя чарговыя заняткі.

-- Няма часу хадзіць на тыя семінары. Працую на два участкі, з планам завал, -- голас майстра дрыжэў і зрываўся.

-- Час, таварыш Пузік, трэба ўшчыльняць, сьціскаць як спружыну, -- Фановіч звяла растапыраныя пальцы, паказваючы, як трэба сьціскаць спружыну часу.

-- У вас таму і з планам завал, што не прадумана арганізацыя працы. Але мы вам дапаможам, -- у голасе Фановіч пазначыліся лагодныя ноткі.

-- Мой аддзел сумесна з сацыялагічнаю лабараторыяй завода, вырашыў правесьці эксперымент -- дасьледваць работу майстра і выпрацаваць пэўныя рэкамендацыі. Жана, -- Фановіч кіўнула на кволую дзяўчыну, -- наша маладзы сацыёлаг, правядзе сёння хранаметраж вашага працоўнага часу.

"З-за пуцёўкі лютуе", -- эмрочна падумаў майстар і на самыя вочы нацубіў свой дзіравы ад прапалін берэт...

-- Што, Пузік, нарматывы здаеш? -- крыкнуў нехта з тэхнолагаў і вясёлы рогат затушыў на момант натужлівае сыканьне прэсаў. Янка ўтуліў голаў у плечы і паскорыў крок. Усьлед яму, трымаючы ў выцягнутай руцэ секундамер, трухала маладзы сацыёлаг Жана.

-- Што ж, так і будзеце за мною хадзіць? -- не вытрымаў, нарэшце, майстар, калі яны падыходзілі да галоўнага склада.

Замест адказу сацыёлаг пагрозліва пстрыкнула секундамерам.

-- Цяжкая жанчына, -- уголас заэначыў майстар і, пхнуўшы непадатлівыя дзьверы, занурыўся ў вохкі прыцемак заводскага склада.

Аляксандр Карымавіч Якубовіч, знакаміты балака і весялун, стаяў ля шпулі кабелю і, кідаючы дапытлівыя позіркі на столь, запаўняў накладныя.

-- А-а! Янка! Зноў без транспарту? -- потная рука кладаўшчыка сьціснула цэўку рукі. - Што гэта, таварыш Пузік, такі невясёлы? Не інакш, -- кладаўшчык шматзначна пачухаў квадратны кадык, -- вырашалі праблему прэс-астатка?

Янка кісла пасьміхнуўся. Пасля артыкула "Бяссонныя ночы рацыяналізатара", што з'явіўся ў заводскай шматтыражцы, жарт гэты быў на вуснах кожнага стрэчнага.

-- Усё, Карымавіч, завязаў, -- Янка пашукаў вачыма аўтакар.

-- Ды не сьпяшай ты... Як кажуць на Капыльшчыне, -- Якубовіч выцягнуў з кішэні пачак "Мальбара", -- усіх спраў не пераробіш. Ты, дарэчы, анекдот пра мойву чуў?

-- Тс-с-с! -- Янка прыклаў да вуснаў закарузлы палец. -- Нас падслухоўваюць!

-- Хто!? -- чорныя вочкі Якубовіча хваравіта пашырыліся.

-- Фановіч падаслала! -- сацыёлаг Жана стаяла ля стэлажоў з запчасткамі і штосьці рупліва занатоўвала ў паміналь-

ніку.

Кладаўшчык выпусьціў з рук запальнічку, шалёнай віхурай кінуўся да аўтакара. Падагнаўшы транспарт, ён падчапіў скрыню з алюмініевымі зьліткамі, уськінуў наверх сэканомленую бочку салідолу, якім на ўчастку змазвалі прэс-формы, і выехаў на двор.

-- Прайдзісьвет! -- коратка выгукнуў Янка. Азірнуўшы склад і прыхапіўшы з сабою кавалак пяньковай вяроўчыны -- у гаспадарцы прыдасца, майстар рушыў сьледам.

Сонца, па-чэрвеньску пранізлівае і гарачае, глянула з-за аблок, крануўшы сваімі ласкавымі промнямі трапяткое сэрца Янкі. Сонца! Колькі яго будзе там, на далёкім нязнаным Поўдні! Янка ішоў па заводскім двары, а ў вачах ягоных мітусіліся вобліскі нябесна-сініх хваляў, зіхцелі нечаканай бельлю хлапякі марской пены і мяккім, празрыста-бурштынавым сьвятлом сьвяціліся валаскі на стройных нагах прыгажуні, якую ён абавязкова сустрэне. Здавалася, ён чуў яе голас, голас чароўнай незнаёмкі, які звонка і чыста гучаў сярод шуму прыбоя.

-- Таварыш Пудзік! -- дробны цокат туфлікаў за сьпінаю вярнуў летуценьніка да жыцьця. -- Вы не маглі б ісьці павольней? -- сацыёлаг парывіста дыхала, а металічная цыкада ў яе руцэ стракацела, лічачы працоўныя хвіліны.

-- Добры ў вас хранометр, -- заўважыў майстар.

-- Японскі, -- гукнула ў адказ сацыёлаг, спатыкаючыся на выбоях цэментавай падлогі.

-- Японскі? Вы былі ў Японіі?

-- Ды не, гэта дзядуля...

-- А ён у вас што... -- майстар энергічна паторгаў локцямі, -- спартовец?

Жана акінула майстра зневажальным поглядам і ледзь чутна прамовіла: -- Мой дзядуля філосаф.

-- А-а! Крадзе, значыцца, рацыянальнае зерне, -- няўдала пажартаваў Янка, і, кінуўшы неакрэсьленае: -- Памыю рукі, --зьнік неўзабаве за пашарпанымі дзьвярыма курылкі. Жана засекла час. Выцягнуўшы з сумкі нарматыўны даведнік, яна пачала размашыста гартаць старонкі, шукаючы графу "Асабістыя патрэбы".

Янка тым часам разнасьцежыў акно. Да зямлі было метраў восем. З дапамогаю Бабронка, які тырчэў у курылцы, ён прывязаў вяроўку да батарэі і, папляваўшы на далоні, пачаў спуск. Усе, хто быў той хвіляй на заводскім двары, здзіўлена назіралі, як майстар Пузік з ліцейнага боўтаўся паміж небам і зямлёй.

-- Ты што, звар'яцеў? -- грымнуў нечы вясёлы голас.

-- Звар'яцееш... з гэтым хрэнаметражом, -- буркнуў майстар і, скокнуўшы на зямлю, стрымгалоў пабег на ўчастак.

Час, змарнаваны на асабістыя патрэбы, блізіўся да месячнай нормы. Хронаметрыстка Жана стаяла ля пашарпаных дзьвярэй і кідала падазроныя позіркі на рабацяг, што выходзілі з курылкі. Яна ўглядалася ў суровыя, кранутыя лёгкім пярэпалахам твары, але ні ў адным з іх не знаходзіла нават далёкай падабізны да блазнаватага і, як ёй падавалася, крыху дурнаватага твару Пузіка. Натоўп практыкантаў-пэтэвушнікаў шчыльным кальцом атачаў сацыёлага. Кудлатыя, у аднолькавых чорных камбінезонах, яны нагадвалі чарцянят, ды і

жарцікі, якімі яны частавалі дзяўчыну, былі годныя хіба што самога Люцынара. Шчокі дзявочыя гарэлі як апараныя. Жане карцела зьбегчы, зьбегчы ад гэтых мурзатых чарцей, ад іхняга вар'яцкага рогату. І яна напэўна збегла б, каб не тая стрэмка непакою, якая балюча вярэдзіла сэрца: "Што з ім, чаму ён не выходзіць?" Жане прыгадалася сьмерць Кацярыны Вялікай, на памяць ёй прыйшлі вусьцішныя кадры тэлевізійнага дэтэктыва, на якіх агент заходніх спецслужб спрабаваў засіліцца ў прыбіральні, і галавакружная, да млосьці жахлівая здагадка начной маланкай высьветліла сьвядомасьць -- "Вяроўка! Так-так... пяньковая вяроўчына, якую ён прыхапіў са склада. Навошта яму вяроўка?" Развітальная ўсьмешка Пузіка, мурзатыя твары пэтэвушнікаў, нязграбная літара "М" на дзьвярах курылкі -- усё змяшалася ўваччу, ператварылася ў адну вялікую размытую пляму.

-- Таварышы! З майстрам Пудзікам штосьці здарылася! Гадзіну таму ён пайшоў мыць рукі... -- дрыжачы палец дзяўчыны паказаў на пашарпаныя дзьверы, -- і назад не вярнуўся!

Пэтэвушнікі паехалі з рогату і сярод гэтага гвалту і зыку чуйнае вуха Жаны ўлавіла голас самаго Пузіка. Майстар бег па цэху, роспачна махаў рукамі, лаяў нейкага Бабронка.

Скупая, густа замяшаная на тушы, сьлязінка зьбегла па дзявочай шчацэ і, пакінуўшы на ёй завілы сьлед, упала на цэферблат секундамера.

Насупраць прозьвішча Бабронка майстар вывеў лічбу "35" і зірнуў на гадзіннік. Трэба было сьпяшацца -- пасьля зьмены яны ўсім цэхам вырашылі пайсьці ў кіно. "Ці пойдзе кранаўшчыца Зіна?" -- думка гэтая не давала пакою, і Янка, аблашчыўшы позіркам газэтную выцінку з раскладам авіярэйсаў (ляжала пад шклом), рашуча падхапіўся на ногі.

-- Што, зямеля, працуеш? -- начальнік цэха Кім Пятровіч Жук, ці папросту Пятровіч, як звалі яго рабочыя, цяжкою хадою ўвайшоў у "кабінет".

-- Як з планам?

-- Ды як... Зноў Бабронак... -- Янка ляпнуў далнёй па зьменнаму журналу. 35 фланцаў за зьмену. І гэта пры норме 120. Не ведаю, што і рабіць з гэтым "выхаванцам".

-- Ты мне лепш скажы, што з табою рабіць? -- зьнянацку перабіў Пятровіч і, грымнуўшы ўслонам, сеў насупраць. -- Толькі што ад дырэктара... Там на цябе прыйшла дакладная аж на пяці старонках. Руйнуеш дысцыпліну... Зрываеш палітычныя мерапрыемствы, -- начальнік узьняў на майстра стамлёныя вочы, -- давёў да істэрыкі дачку адказнага работніка...

Да горла падступіў камяк, і Янка адчуў раптам, што дыхае ўпоравень з цяжкімі ўздыхамі молата, што ажываў пасьля кароткай перазьменкі. "Дзесяць гадоў у гарачым цэху... Зацямненьне ў лёгкіх... І на табе, руйную дысцыпліну..."

-- Не трэба тае пуцёўкі. Няхай едзе, адпачывае, -- ціха прамовіў майстар і, ня ведаючы, за што зачапіць дрыготкія рукі, выцягнуў пачак дзедавай махоркі.

Праз колькі хвілін, скруціўшы з газэтнай выцінкі, што ляжала пад шклом, тоўстыя самакруткі, майстар з начальнікам напоўнілі катух шызым махорачным дымам.

-- Гэтую бабу абыходзь за кіламетр. Яе сам дырэктар баіцца, -- сказаўшы так, Пятровіч бліснуў сьлязістым вокам

і летуценна патрос галавой: -- Не, віцебская махра была лепш.

Тлела цыгарка. Зьнікалі, ператвараліся ў попел газэтныя радкі авіярэйсаў. Спачатку зьнік "Адлер", потым падыйшла чарга "Менска", а чырвоная рыска, якая іх падкрэслівала, набывала, перад тым, як згарэць, атрутна зялёны колер. Янка зацягнуўся пяршывым дымам і, каб падтрымаць размову, безуважна прамовіў: -- Ад камароў дапамагае.

-- Лютуе камарэча, ноччу няма паратунку. Але нічога, -- майстар адчуў на сваім плечуку цяжкую руку Пятровіча, -- перажывём!

-- Перажывём, -- кіўнуў той і, пляснуўшы па карку, забіў набрынялага крывёй камара.

ж ж ж

Праз два тыдні, у апошні дзень гарачага і пыльнага чэрвеня, Янка Пузік прыехаў у родную вёску. Ён вылез з тлумнага "пазіка", удыхнуў на поўныя грудзі паветра і замер на мейсцы: дзед Базыль стаяў на супынку, акурат там, дзе яны разьвіталіся ў мінулы раз, з-пад рукі глядзеў на аўтобус. "Як ведаў, што прыеду", -- падумаў расчулены ўнук і ў душы падзячыў Фановіч, якая паехала замест яго ў Сочы.

# + ЛЯВОН БАРШЧЭЎСКІ +

## БАЙКА ПРА (БЛІЗКУЮ?) БУДУЧЫНЮ

Надыдзе час: аціхнуць гвалт і крык,
Мы разьбярэмся ў зваленым у кучу
І ўспомнім, як кідаўся злосны Бык
На бел-чырвона-белую анучу.

Мы ўспомнім, як усьцешна нам было
І вусьцішна на гэтай вось карыдзе,
Бо злосьцю сківіцы Быку зьвяло --
І сьмех, і грэх...
Мы ўспомнім, час надыдзе.

Адно каб не забавіцца ў гульні;
Надыдзе час -- з Быком зрабіць сур'ёзна:
Падкорму не даваць яму ані
І ў клетку ўзяць загнаць, пакуль не позна...

Убачыць экспанат каштоўны наш
І цёткі прыйдуць, і дзядзькі, і дзеткі.
І будзе панаваць ажыятаж
У наваколльлі гэтай самай клеткі!

Надыдзе час, і, можа, ўцяміць Бык:
То быў Штандар Сьвяты, а неануча --
Адно каб толькі цяміць ён прывык...
А новы час надыдзе немінуча!

## СХОД НАЙВЫШЭЙШАЙ РАДЫ

"... Ён разважае, хоча нешта ўзважыць..."
-- Сьпляжыць!

"... А той вылазіць, нешта прапануе..."
-- Маць такую!..

"... А гэты кажа: дзеці недзе гінуць..."
-- Сьгінуць!

"... А гэны на наш розум спадзяецца..."
-- Хай заткнецца!

"... Таму карціць свой нос усюды ўплішчыць..."
-- Зьнішчыць!

